

# Дзяньніца
# Dziańnica

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ ГРАМАДЗКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ" ТРАВЕНЬ 2000 № 5

## У сёньняшнім нумары чытайце:

*Публіцыстычныя рэмінісцэнцыі, прысьвечаныя джынсам — своеасабліваму сымболю сямідзесятых гадоў. Аўтар матар'ялу прасочвае гісторыю іх "стварэньня", а таксама прыгадвае цікавы выпадак, зьвязаны з джынсамі, які надарыўся за часамі камуністычнай улады.*

*Рэдакцыя мерыцца і надалей друкаваць падобныя нататкі і запрашае чытачоў распавесьці ўласныя гісторыі, зьвязаныя з джынсамі, поп-музыкай ды іншымі рэчамі, зь якімі бясплённа змагаліся колішнія камуністычныя ідэолягі.*
*У наступным нумары чытайце пра тое, як маладыя навапалачанін упершыню пачуў песьні "Beatles".*

* * *

*Агляд новых друкаваных выданьняў Полацка - Наваполацкага рэгіёну. Яго аўтар, Сяргей Саданенка, прасочвае як асаблівасьці асобных выданьняў, так і агульныя рысы навачаснага самвыдавецтва.*
*У бліжэйшых нумарах наш бюлетэнь мяркуе ажыцьцявіць апытаньне чытачоў і на яго аснове вызначыць рэйтынг незалежных рэгіянальных газэт і бюлетэняў.*

* * *

*Успаміны навапалачаніна Пятра Мікалаевіча Лаўрычонка, які сёлета адзначае сваё васьмідзесяцігодзьдзе. Пятро Мікалаевіч належыць да слаўнай плеяды выхаванцаў Віленскай беларускай гімназіі і, пазіраючы з вышыні пражытых гадоў, гэты шчыры працаўнік і патрыёт робіць сумныя высновы пра тое, што любая ўлада, якая панавала цягам апошняга стагодзьдзя на Беларусі, рабіла ўсё, каб зьнішчыць беларусаў як нацыю.*




Дзяньніцай беларусы называлі ранішнюю зару. У гэтым паэтычным слове адбілася ня проста прыродная зьява — зьмена пары содняў. Надыход дзяньніцы — гэта працятая пантэістычным паганскім духам лучнасьць чалавека з прыродай, гэта абуджэньне ў душы сьветлых памкненьняў, гэта, нарэшце, надзея на лепшую долю.
Дзесяць гадоў таму на нашай зямлі пачало днець. Сьвітальныя промні зыркнулі з-за небасхілу, асьвятлілі нізкія аблокі, але тут жа і згасьлі пад п'яныя крыкі люмпэну, лямант галасістых баб, сьпевы маскоўскіх папоў і злавеснае рыпеньне палкоўніцкіх ботаў.
Сёньняшняя Беларусь — краіна, дзе пануе савецкі соцыюм. Гэтыя людзі абралі сабе правадыра, зьняважылі нашыя нацыянальныя сымбалі, вынесьлі на сьметнік беларускую мову, гісторыю і культуру. Цяпер яны з імпэтам зьбіваюць гумовымі дручкамі ўсіх незадаволеных, скаланаючы паветра грымучымі мацюгамі і ўстойлівым гарэлачным перагарам.
Многія шчырыя і сумленныя беларусы, пабачыўшы такое, сьцішыліся, стаіліся, махнулі на ўсё рукой, зьехалі за мяжу.
Беларусы, як той Антэй, маюць сілу толькі тады, калі стаяць на роднай зямлі. А таму мы нікуды не паедзем. Мы будзем рабіць усё, каб п'яны люмпен стаў чалавекам, каб гарлапаны і невукі былі адхілены ад улады, і каб боты розных прыблудаў не дратавалі нашую сьвятую зямлю. Ну а калі давядзецца памерці, дык усьлед за Ўладзімерам Караткевічам папросім крэўных пакласьці нас у дамавіну, дыхтоўна зьбітую з нашай звонкай беларускай сасны.
Сёньня на Беларусі дабіваюцца рэшткі ўсяго сумленнага. Сёньня нават самыя заўзятыя аптымісты згубілі надзею пабачыць беларусаў цывілізаваным эўрапейскім народам. Але мы такой надзеі не губляем і таму назвалі сваё выданьне пракаветным словам ДЗЯНЬНІЦА. Бо ведаем: пасьля самай апраметнай і цёмнай ночы заўсёды надыходзіць сьвітанак.

***Рэдакцыя.***

# СЫМБОЛЬ ПРАМІНУЛАЙ ЭПОХІ

*Маладосьць мая прыпала на п'яныя, застойныя, але, тым ня менш, вясёлыя сямідзесятыя гады. Памяць часьцяком вяртае мяне ў той час і мне мрояцца твары сяброў, мрояцца шчымлівыя песьні ансамбля "Цветы", у душы ажываюць былыя жаданьні і мары, сярод якіх галоўнай марай была: купіць "Левісы" — фірмовыя джынсы, якія каштавалі на той час шалёных грошаў і якія былі своеасаблівым сымболем сямідзесятых гадоў.*

*Такім чынам, сёньняшні мой аповед прысьвечаны джынсам і пачну я яго са згадкі пра Леві Штраўса — нямецкага гэбрая, мільянэра і летуценьніка, чыё імя сталася назвай знакамітай фірмы і, адбітае на скураной этыкетцы, ўжо не адно дзесяцігодзьдзе ўпрыгожвае дзявочыя азадкі і красуе на тыльных баках хлапечых торсаў.*

Леві Штраўсу было чатырнаццаць гадоў, калі ён — да поўнага ачмурэньня — закахаўся ў Генрыету. Ён быў гэбраем, зь беднай сям'і; яна была багатай арыйкай, а таму бацькі — з абодвух бакоў — забаранілі маладым сустракацца.

Леві затаіў крыўду, а неўзабаве паведаміў бацьку: "Еду ў Амэрыку". "І што ж ты там будзеш рабіць?"— запытаўся стары Штраўс, хаваючы лагодную ўсьмешку. "Зараблю шмат грошай, вярнуся і ажанюся на Генрыеце", — адказаў сын.

З хлопца, вядома ж, пасьмяяліся, але калі той пачаў усур'ёз рыхтавацца да ад'езду, бацькі і знаёмцы ўраз пасур'ёзьнелі і пачалі адгаворваць Леві ад такіх вандровак. Але юнак быў настроены рашуча, да таго ж ехаў ён не на пустое месца: у Амэрыцы да таго часу атабарыліся ягоны дзядзька і старэйшы брат.

Ехаў за акіян з прыгодамі, поўны рамантычнага імпэту, але першыя ж дні заакіянскага побыту выпетрылі з душы ілюзіі і рамантыку. Ды й дзіва што... Працаваць давялося на дзядзькавай фэрме, а вілкі ды кучы гною, як вядома, рэчы вельмі далёкія ад рамантыкі. Неўзабаве юнак разьвітаўся з дзядзькавай фэрмай і падаўся ў Нью-Ёрк, да брата, які займаўся дробным гандлем.



Цэлымі днямі Леві круціўся пры краме, дапамагаючы брату, па вечарох пісаў лісты сваёй каханай, у якіх паведамляў — якія вялікія грошы ён тут зарабляе (ня маючы пры гэтым ні цэнта ў кішэні), і аднойчы, напісаўшы чарговага ліста, гукнуў брату: "Еду на Дзікі Захад!" Брат уздыхнуў, пахітаў галавой, але ад паездкі не адгаворваў і нават даў на дарогу сякога-такога тавару.

Тым часам на Дзікі Захад ехалі ня толькі шукальнікі прыгодаў, але й рознага кшталту прыйдзісьветы ды крымінальнікі. А таму атрымаць кулю ў лоб можна было ў любым прыдарожным салуне. Леві пашанцавала: ён застаўся ў жывых, аднак па дарозе яго абрабавалі. Злодзеі забралі ўсё, апрача некалькіх скруткаў палатна. Палатно прызначалася дзеля карабельных ветразяў і ў каліфарнійскай пустэльні такі тавар нікому ня быў патрэбным.

І вось, паблукаўшы па пустэльні, небарака прыбіўся да золаташукальніцкай сябрыны і прапанаваў ёй свой тавар, паведаміўшы, што палатно не прапускае вільгаці. Той-сёй набыў тканіну, змайстраваў намёты, ды тут надарылася нечаканае: пайшоў рэдкі ў тых мясьцінах дождж і змоклыя каліфарнійцы, прыхапіўшы кольты, кінуліся шукаць гандляра. Але гандляр яшчэ напярэдадні залевы даў дзёру і ў той момант прапаноўваў свой нехадавы тавар іншай сябрыне. "Што ты нам гэтую халеру прапаноўваеш? Ты лепей штаноў прывязі,"— параіў яму малады хлопец і Леві пасьля такіх слоў заклапочана пачухаў патыліцу. Золатаздабытчыкам пад час працы даводзілася поўзаць на каленках і любыя, нават самыя трывалыя штаны, умомант разьляталіся. Вось няўдалы гандляр і падумаў: а ці ня сшыць штаны зь ветразёвага палатна?

Не марнуючы часу, Леві паехаў у бліжэйшае мястэчка, знайшоў краўца і азнаёміў таго са сваёй

ідэяй. "Ты што, хлопец, звар'яцеў? Хто гэта шые штаны з такога палатна?"— рагатнуў кравец, але калі Леві выклаў на стол усе тыя даляры, што меў у кішэнях, кравец уздыхнуў і паабяцаў сшыць, дзеля сьмеху, колькі штаноў з прапанаванай палатніны.

І вось штаны былі сшытыя і вынесеныя на продаж. Мясцовы люд з такога тавару шчыра пасьмяяўся, але адзін золатаздабытчык набыў сабе "ветразёўцы" і зазнаў процьму кпінаў: "Гэй, Джон, пастаў свае штаны да сьцяны і заходзь да нас у салун". Праз колькі дзён Джонавы сябрукі ўбачылі, што "ветразёўцам" няма зносу і пачалі пытацца адно другога: дзе той малады гэбрай, што гандлюе "жалезнымі" штанамі? А яшчэ праз пару месяцаў Леві Штраўс арганізаваў у мястэчку кравецкую майстэрню, назваўшы яе ўласным імем — "Леві". Майстэрня неўзабаве ператварылася ў вялізную фірму, з італійскага порту Генуя на адрас фірмы пайшлі караблі са скруткамі адмысловага палатна і назва порту й дала назоў сусьветна вядомым джынсам — "genes" у амэрыканцаў загучала як "jeans".

Калі Леві стукнула 22 гады, ён выправіўся, нарэшце, у Эўропу. Выправіўся трыюмфатарам, бо меў на банкаўскім рахунку некалькі мільёнаў даляраў і прагнуў цяпер толькі аднаго: пабрацца шлюбам з каханай дзяўчынай. На радзіме яго чакала неспадзеўка: Генрыета паўстала перад ім замужняй жанчынай, зь дзіцёнкам на руках. Як потым высьветлілася, маці Генрыеты перахоплівала ўсе лісты, якія Леві пасылаў сваёй каханай, і тая падумала, што хлопец на яе забыўся.

Леві Штраўс мусіў вярнуцца ў Штаты і кінуцца ў вір працы. Ад той пары ягоная фірма стала прадукаваць джынсы блакітнага колеру і на кожных зь іх прышывалася скураная этыкетка з надпісам "Levi". З адзеньня фэрмэраў і каўбоеў яны ператварыліся ў элемэнт маладзёвай моды і літаральна захапілі спачатку амэрыканскі кантынэнт, а потым і Эўропу.

Ну а вынаходнік джынсаў так і застаўся на ўсё жыцьцё кавалерам і памёр у 73-гадовым узросьце. Спадчыньнікі знайшлі ў ягоным стале пажоўклыя лісты, якія яму напісала Генрыета, ды ссохлую ружу, якую дзяўчына падаравала маладому Леві, калі той выпраўляўся ў Амэрыку.

***POSTSCRIPTUM***

Наш аповед быў бы няпоўным, калі б мы не згадалі пра "лёс" джынсаў у былым Савецкім Саюзе. А лёс той быў незайздросным, бо камуністычныя ідэолягі абвясьцілі іх, поруч з гумовай жуйкай, праявою апалітычнасьці і нізкапаклонства перад Захадам. У тых жа савецкіх фільмах канца 60-х — пачатку 70-х гадоў усе мярзотнікі былі апраненыя ў джынсы, у нашым маладзёвым горадзе Наваполацку ў джынсах нельга было хадзіць у школу і нават на танцы: ля ўваходу на танцпляцоўку дзеля гэтай мэты стаяла міліцыя. Сёньня таму цяжка даць веры, але гэта было і гэтага ня выкінуць зь гісторыі. Джынсы тою парою былі ня праста моднай апранахай, а пэўным знакам, сьведчаньнем прыналежнасьці іхных "носьбітаў" да пэўнай касты. Каштавалі яны вялікіх грошаў, ды і набыць іх, нават пры наяўнасьці патрэбнай сумы, было няпроста. Праўда, калі напачатку сямідзесятых за імі езьдзілі ў Вільню, дык у сярэдзіне дзесяцігодзьдзя ўжо наш горад стаў "пастачальнікам" фірмовага тавару. Рэч у тым, што ў Наваполацку ў той час атабарыліся будаўнікі польскай фірмы "Энэргаполь". Палякі, аднак, ня столькі будавалі, як гандлявалі, у тым ліку і джынсамі, зьдзіраючы з наваполацкіх пакупнікоў па 200—220 рублёў за штуку.

Ну і, зразумела, ніхто ў сямідзесятых гадох не насьмельваўся вывешваць джынсы на прасушку ў двары ці ў якім іншым людным месцы, альбо пайсьці ў джынсах на пляж. Калі б такое надарылася, іх бы абавязкова скралі. І тут самы раз згадаць выпадак, сьведкам якога я быў і які зьяўляецца своеасаблівым фрагмэнтам "джынсавай эпапеі" сямідзесятых гадоў.

Аднойчы мы ішлі з сябрам Валодзем па горадзе і сустрэлі нашага агульнага знаёмага Лёху, зь якім разам вучыліся ў школе. Знаёмы некуды сьпяшаўся, а таму, паціснуўшы нам рукі, мімаходзь прамовіў: "Заўтра а пятай раніцы ідзем на рыбалку". Сказана гэта было такім тонам, што я адразу зразумеў: тут рыбай ня пахне.

Надарылася так, што ўранку таго дня я шыбаваў з пагулянкі і нечакана ўгледзеў на даху аднаго з дамоў Валодзю, які трымаў у руцэ рыбацкі сьпінінг. Рыбалка на даху — гэта ўражвала і я, прыхаваўшыся за дрэвам, стаў цікаваць — якую рыбу будзе лавіць сябар. Неўзабаве з-за краю даху выплыла кудлатая Лёхава галава; галава тарганулася, маўляў, будзем закідваць у гэтым месцы і Валодзя, зірнуўшы долу, стаў накручваць сьпінінг. Яшчэ хвіліна, і сябар, падчапіўшы на гачак джынсы, што сохлі на гаўбцы, стаў круціць барабан у адваротны бок.

"Рыбалка" такая падпадала пад артыкул Крымінальнага Кодэксу, і ўсё ж такі гэта быў не банальны крадзеж, а нешта іншае. Бо калі б на гаўбцы вісела норкавае футра, ці нават царскія шаты, хлопцы б на іх наўрад ці пакваліліся. "Рыбацкае шчасьце" яны зьведвалі толькі тады, калі на гачак патраплялі зацяганыя і падзертыя джынсы — сымболь такіх далёкіх і такіх незабыўных сямідзесятых гадоў.

**В.М. & В.Х.**

## КОЛА ЧЫТАНЬНЯ

# Агляд рэгіянальных друкаваных выданьняў

Сёлета пабачыў сьвет рэгіянальны дадатак да рэспубліканскай газэты "Рабочы" — *"Рабочы Полаччыны"*. Але, як у кожнай гісторыі ёсьць свая перадгісторыя, так і ў згаданага дадатку быў свой папярэднік — бюлетэнь гарадзкога Інфармацыйна—прававога цэнтру Свабоднага прафсаюзу Беларускага *"ПрофИнфо"*, першы нумар якога выйшаў у чэрвені, а апошні, на колькі нам вядома, — у сьнежні леташняга году. Выдаўцы бюлетэню дэкляравалі, што ён будзе выходзіць два разы на месяц, аднак, натуральна, час ад часу здараліся затрымкі з выхадам у сьвет чарговых нумароў. Адным з самых цікавых атрымаўся лістападаўскі нумар, які па зьмесьце набліжаўся да газэтнага стандарту. Тут былі надрукаваныя два цікавых інтэрвію: з Уладзімірам Русіным -- ён распавёў пра аднаго з заснавальнікаў незалежнага прафсаюзнага руху ў Беларусі Міхала Путро,-- і з Майклам Грыфіным — старшынём Фэдэрацыі прафсаюзаў штата Паўночная Караліна (ЗША), які наведаў Інфармацыйна—прававы цэнтар СПБ у кастрычніку мінулага года. Сярод іншых матар'ялаў нумару варта адзначыць навіны першасных прафсаюзных арганізацыяў, старонку агітатара, калонку юрыдычнай кансультацыі. Рэдагавала бюлетэнь журналістка Аліна Бальшакова.

У лістападзе 1999 году пабачыла сьвет яшчэ адно выданьне: бюлетэнь Наваполацкага прадстаўніцтва Праваабарончага цэнтру "Вясна" *"Наша права"*. У першым нумары бюлетэню была зьмешчана інфармацыя пра дзейнасьць Праваабарончага цэнтру "Вясна"; пра падзеі, зьвязаныя з кастрычніцкім Маршам Свабоды ў Менску; юрыдычная кансультацыя наконт таго — як трэба паводзіць сябе пры затрыманьні. У другім нумары асьвятляліся юрыдычныя аспэкты расейска—беларускага зьвязу; друкаваліся зьмяненьні ў Жытловым Кодэксу РБ, а таксама тэкст Усеагульнай Дэклярацыі правоў чалавека. Зьмест трэцяга нумару быў ня менш разнастайным: правы і абавязкі супрацоўнікаў міліцыі; судовы працэс над былым прэм'ер-міністрам Міхалам Чыгіром; міжнародны праваабарончы агляд. Ну а найбольш цікавым матар'ялам чацьвертага нумару была публікацыя пад назваю "Алег і Міхаіл Батурыны супраць МУС". Цешыць тое, што бюлетэнь шмат увагі надае мясцовым падзеям.




Варта згадаць толькі некаторыя назвы артыкулаў і допісаў: "Пікет наваполацкіх праваабаронцаў", "Сэмінары працягваюцца", "Чаго баяцца ўлады Наваполацка?", "Паляваньне на ваўкоў", "Справа аб яйках", "Рамонт, які зацягнуўся".

У лютым сёлета пачаў выданьне свайго бюлетэня і Інфармацыйны цэнтар Віцебскай філіі Фонда імя Л. Сапегі. Яго назва *"Новы горад"*. "Наша мэта, каб нашыя матар'ялы дапамагалі людзям рабіць сьвядомы выбар на карысьць дэмакратыі,"— паведамілі выдаўцы ва ўступным слове да першага нумару бюлетэню.

У тым жа месяцы выйшаў і першы нумар газэты *"Народный предприниматель"*. Той факт, што яе заснавальнікам, выдаўцом і рэдактарам зьяўляецца адзін чалавек — старшыня Незалежнага прафсаюзу прадпрымальнікаў Наваполацка Валеры Шаўчэнка,— можна лічыць тыповай зьявай для сёньняшняга этапу разьвіцьця рэгіянальных незалежных СМІ.

Можна таксама з упэўненасьцю сказаць, што аўтарамі бальшыні надрукаваных у вышэйзгаданых выданьнях матар'ялаў зьяўляюцца іх рэдактары. Ну а дзеля камуфляжу выкарыстоўваюцца шматлікія псэўданімы. Беларусачка, Тацяна Хмара, Тацяна Нетбаева, Камітэт Дзяржаўнай Небясьпекі... Колькі аўтараў хаваюцца за гэтымі подпісамі? Тры? Два? Адзін? Няшмат хто з чытачоў газэты *"Палімпсэст"*, што пачала выходзіць зь верасьня мінулага года, ведаюць гэта. Зрэшты, блукаць па палімпсэстаўскіх лябірынтах цікава і прыемна, пагатоў лябірынты тыя не такія заблытаныя. З *"Палімпсэстам"* чытача збліжае юначая непасрэднасьць тэкстаў і іх няўтаймаваная гарэзьлівасьць. Пры гэтым *"Палімпсэст"* — выданьне сучаснае і канцэптуальнае. Новыя тэксты ў *"Палімпсэсьце"* часьцяком ствараюцца з камбінацыі цытат шырокавядомых аўтараў на пэўную тэму (напрыклад, на тэму "Родная мова") і пры тым ніхто з чытачоў ня можа аспрэчыць права аўтара паставіць пад такім тэкстам уласны подпіс, бо новы тэкст — гэта літаратурная постмадэрнісцкая гульня.

Заўважым прыканцы, што найбольш важнай задачай сёньня зьяўляецца пашырэньне чытацкай аўдыторыі незалежнага друку і, адпаведна, стварэньне альтэрнатыўнай сеткі іх распаўсюджваньня. Яшчэ адна задача: стварэньне на базе існуючых выданьняў прафэсійнай і шматтыражнай рэгіянальнай газэты.

**СЯРГЕЙ САДАНЕНКА.**

УСПАМІНЫ

Пятро Лаўрычонак

# ПАЛЯКІ. НЕМЦЫ. БАЛЬШАВІКІ.

*У апошнія пару гадоў даводзіцца часьцяком сустракацца з моладзьдзю. Моладзь сёньня дапытлівая і кожны раз пытаецца: як там жылося, за даўнім часам? Вось я і распавяду пра тое жыцьцё, пра якое савецкія газэты ды падручнікі напісалі шмат рознай лухты.*

Нарадзіўся я ў далёкім 1920 годзе ў вёсцы Масьцішча былога Дзісенскага павету. Бацькі мае былі сялянамі праваслаўнага веравызнаньня. Насельніцтва ў нашай мясцовасьці было скрозь беларускім і толькі ў Дзісьне жылі гэбраі ды тамсям уздоўж мяжы "з Саветамі" пракідваліся фальваркі польскіх асаднікаў — гэта былі легіянэры Пілсудскага, якім "начэльнік паньства" даў зямельныя надзелы плошчаю 15—20 гектараў на ўсходняй мяжы Польшчы. Асаднікі, па задуме польскіх уладаў, павінны былі выконваць функцыі інфарматараў на граніцы і, апроч таго, мусілі садзейнічаць палянізацыі беларускага насельніцтва. Ня ведаю, як наконт інфарматарства, а вось што тычыцца палянізацыі, дык тут яны посьпеху ня мелі. Асадніцкія дзеці бавілі час, вядома ж, з намі, сялянскімі падшыванцамі, і таму скрозь гаманілі па-тутэйшаму.

Школы, аднак, былі польскія. У нашай чатырохгадовай szkole powszechnej, дзе я вучыўся, усе прадметы, акрамя Закону Божага, выкладаліся на "ензыку". Мовы той ніхто з нас ня ведаў, таму вучоба, асабліва ў першым клясе, ішла даволі цяжка.

У той жа час настаўнікі былі беларусамі і ў душы хіліліся да беларушчыны, але ўслых пра гэта на казалі — баяліся згубіць працу. Улады рупіліся пра тое, каб у школе панаваў польскі дух, і калі хтосьці з настаўнікаў пачынаў праводзіць "беларускую лінію", яго альбо звальнялі, альбо пераводзілі на працу ў глыбінныя раёны Рэчы Паспалітай. Дарэчы сказаць, "шкрабам" тады добра плацілі — прыкладна 150 злотых у месяц. І гэта пры тым, што гарнітур з самага лепшага сукна каштаваў ня болей 70-ці злотых. І наогул, настаўнікаў у вёсцы паважалі: сяляне пры сустрэчы з "панам навучыцелем" зьлёгку кланяліся, прыўздымалі шапкі. Гэта ўжо потым, пры бальшавіках, аўтарытэт і зарплату настаўнікаў зьвялі на нішто.

Мімаходзь заўважу, што за польскім часам у нас практычна не было п'янства, а мацюгі, якія сёньня зьлятаюць з вуснаў нават вучняў малодшых клясаў, мы ўпершыню пачулі ў верасьні 1939 году, калі прыйшлі бальшавікі.

У працяг тэмы палянізацыі згадаем і польскі касьцёл. Ксяндзы таксама спрабавалі зрабіць з нас палякаў, але вялікага посьпеху ня мелі. Памятаю, мы, дзятва, бегалі аднойчы да касьцёлу, калі хлопец з суседняй вёскі браў жонку-каталічку і ксёндз падчас шлюбу "пераварочваў" яго ў каталіцкую веру.

Пасьля шлюбу ксёндз дэманстратыўна даў жаніху 5 злотых, але болей ахвочых "пераварочвацца" ў каталікі ні ў нашай, ні ў суседніх вёсках не знайшлося.

Пасьля сканчэньня школы пашчасьціла мне патрапіць у наша слаўнае беларускае места Вільню, дзе жыў родны матчын брат — дзядзька Кузьма. Дзядзька быў адукаваным чалавекам і шчырым беларусам. Усю германскую вайну правёў на фронце, даслужыўся да штабс-капітана, а калі ў Расеі пачаліся рэвалюцыйныя закалоты, перабраўся ў Вільню, дзе стаў працаваць у беларускіх арганізацыях. Прыяжджаючы ў адведкі, дзядзька заўсёды прывозіў стосы беларускіх кніг і газэтаў, якія я зь цікавасьцю чытаў. Аднойчы, прыехаўшы чарговым разам, дзядзька запытаўся — ці чытаў я нашых паэтаў? У вадказ я прачытаў верш Якуба Коласа і дзядзька, уздыхнуўшы, прамовіў:

— Трэба цябе, Пятрок, у Вільню выпраўляць, у гімназію.

Бацька мой такую прапанову ня надта ўхваліў: вагаўся, чухаў патыліцу, але,у рэшце рэшт,здаўся. Верасьнёўскім ранкам 1931 году мы селі зь ім на калёсы і паехалі на чыгуначную станцыю. На станцыю прыехалі позным вечарам, бацька ўзяў квіток і, каб я яго не згубіў, узьдзеў на нітку ды павесіў мне на шыю.

У цягніку я сядзеў нерухома, з трывожным сэрцам паглядаў на на цёмныя дрэвы, што плылі за вагоннай шыбай. Толькі на раніцу зьвёў вочы, і тут жа пачуў:

— Panowie... Wilno!

Выйшаў зь цягніка і аслупянеў: тлум, гармідар, паненкі ў чорных капелюшах... Дагэтуль даводзілася бываць толькі ў Дзісьне, а тут патрапіў у сапраўдны эўрапейскі горад і, вядома, разгубіўся. На шчасьце, тут жа ўбачыў дзядзьку Кузьму і перавёў дых. Дзядзька, дзеля пачатку, завёў мяне ў кінематограф і там я зазнаў сапраўднае ўзрушэньне. Калі на экране паказалі казакаў, што ляцелі на конях, дык я нават зваліўся з крэсла — думаў, казакі і мяне пасякуць сваімі шашкамі.

Да дзядзькі — жыў ён на вуліцы Віцебскай — ехалі на рамізьніку. Я, вясковы падшыванец, глядзеў на віленскія камяніцы, на гладкі брук, на аўтобусы з надпісам "Arbon" на баках і не даваў веры, што буду жыць і вучыцца ў гэтым тлумным і вялікім месьце.

А наступнай раніцай мяне чакала новае ўзрушэньне: дзядзька прывёў мяне ў беларускую гімназію. У той жа дзень сеў за парту. Першым урокам быў урок геаграфіі, які вёў настаўнік Пётра Шчасны. Вывучалі, памятаю, краіны Азіі. Настаўнік мне вельмі спадабаўся, асабліва спадабалася тое, што гаманіў ён не па-польску, а на нашай роднай беларускай мове. На перапынку да мяне падышлі хлопцы-аднаклясьнікі — два Янкі — Рагач і Станкевіч, і два Лявоны — Кароль ды Луцкевіч. Паляпалі па плячы, сказалі, што ў першы дзень яны таксама хваляваліся. А на вялікім перапынку давялося пазнаёміцца і з двума дзяўчынамі — Людай Сіглючонак і Аленай Шырмай — дачкою знакамітага музыкі.

З тае пары мінула амаль сем дзесяцігодзьдзяў, але я і дагэтуль чую звонкія галасы маіх аднаклясьнікаў, і ў снах часьцяком бачу наш кляс пад высокімі скляпеньнямі — сьвятую мясьціну, дзе гадавалася і гартавалася

(Працяг на ст.6)

Беларушчына.

Наогул, гады, праведзеныя ў сьценах Віленскай беларускай гімназіі, згадваюцца сёньня як чароўная пара. На ўсё астатняе жыцьцё запомніліся настаўнікі: Мікола Анцукевіч, Вінцук Жук-Грышкевіч, Вольга Русак, Хведар Ільляшэвіч (вядомы беларускі паэт), Барыс Кіт (па вайне апынуўся ў ЗША, дзе займаўся стварэньнем аэракасьмічнай тэхнікі), Алена Сакалова-Лекант ( выкладчыца нямецкай мовы — вучні яе вельмі любілі. Сталася пакутніцай бальшавіцкага ГУЛАГу).

У першы год неразгінаючыся сядзеў за падручнікамі, асабліва цяжка даваліся лаціна ды нямецкая мова, але потым справа пайшла лацьвей і неўзабаве я пачаў, як кажуць, азірацца на бокі ды браць удзел у розных вучнёўскіх імпрэзах.

У інтэрнаце пры гімназіі жылі хлопцы і дзяўчаты з усіх куткоў Заходняй Беларусі. Жылі дружна, дапамагаючы адно другому: за ўсе восем гадоў вучобы я ніколі ня бачыў боек паміж вучнямі. У гімназіі мы ня толькі вучыліся, але і з карысьцю для сябе бавілі вольны час. Займаліся ў драмгуртку, сьпявалі ў хоры, вучыліся граць на духавых інструмэнтах, а вывучыўшыся, хадзілі па віленскіх вуліцах з аркестрам. Вучнёўскім хорам кіраваў славуты Рыгор Шырма, дачка якога, Алена, вучылася ў нашым клясе. З натхненьнем сьпявалі мы беларускія народныя песьні, а таксама “Люблю наш край”, “Адвеку мы спалі” ды іншыя песьні.

Пад Новы год заўсёды ладзіліся вечарыны, а 25 сакавіка, у гадавіны абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, праводзіліся ўрачыстыя акадэміі, канцэрты з удзелам хору і аркестру, а таксама выступы беларускіх паэтаў. Добра памятаю, як у нас чыталі свае вершы Максім Танк і Міхась Машара.

Дзеяла ў гімназіі і камсамольская суполка. Я быў таксама ў яе ўступіў: хадзіў на сходы, што ладзіліся на канспіратыўных кватэрах, браў удзел у так званых масоўках — вулічных акцыях і дэманстрацыях супроць польскіх уладаў. Але мне ўсё гэта ня надта падабалася і, урэшце рэшт, я кінуў наведваць камсамольскія імпрэзы. Да таго ж і настаўнікі папярэджвалі, каб мы ня надта захапляліся Саветамі, бо за гімназіяй пільна сачыла дэфэнзіва і яе маглі ў любы момант зачыніць.

А вось менскія газэты я чытаў рэгулярна і з цікавасьцю. Іх выпісваў Беларускі музэй імя Івана Луцкевіча, які месьціўся поруч з гімназіяй і які мы, гімназісты, ледзь ня кожнага дня наведвалі. Мушу сказаць, што тады я сьвята верыў савецкім газэтам і не даваў веры газэтам польскім, якія пісалі пра сталінскія рэпрэсіі, пра жабрачае калгаснае жыцьцё, пра палітычнае бяспраўе народа. Я думаў, што ў Савецкай Беларусі людзі сапраўды жывуць багата і шчасьліва, што там няма прыніжаных і гаротных людзей, і што там квітнее наша родная беларуская мова і нацыянальная культура. Гэта ўжо потым, калі вярнуўся дахаты, вяскоўцы распавялі, як бальшавікі на тым беразе Дзьвіны высялялі людзей з памежнай зоны; тых, хто не жадаў перасяляцца, сілком цягнулі з хат і жаночае галашэньне было добра чуваць на нашым беразе. Пачуўшы такое, я вырашыў, што савецкія газэты ня пішуць усяе праўды і што ад камуністаў трэба трымацца як мага далей.

Гімназію скончыў у 1938 годзе і ад'ехаў зь Вільні ў спадзеўцы ізноў туды вярнуцца. Марыў вывучыцца на каморніка, а таму паехаў дахаты па даведку аб матар'яльным стане бацькоў. Калі бацькі бедныя — можна было вучыцца задарма, а калі не — за вучэньне трэба было плаціць грошы. І хаця наша сям'я — па тадышніх мерках — жыла бедна, мясцовыя ўлады мне такой даведкі не далі. Відаць таму, што я быў шчырым беларусам і ня надта ляяльным да Польскай дзяржавы.

Застаўся ў вёсцы, стаў дапамагаць бацькам па гаспадарцы, у адначас займаючыся самаадукацыяй. Адразу па прыезьдзе падгаварыў бацьку набыць лямпавы радыёпрыймальнік і штовечара слухаў — што дзеецца ў сьвеце. А ў сьвеце дзеялася штосьці ня надта добрае: з заходу насоўвалася вайна.

Улетку 1939 году польскія ўлады правялі частковую мабілізацыю, а потым пачалі “прыбіраць да рук” розных ненадзейных, з іх пункту гледжаньня, асобаў.

31 жніўня таго году ў нашу хату ўваліліся паліцыянты і абвясьцілі, што я арыштаваны. У вёсцы, апроч мяне, заарыштавалі майго сябра Генуся Дзямешку (ён таксама быў шчырым беларусам), пана Шугальскага — той, па чутках, меў сувязь з камуністамі, і гэбрая Рувіма Лекаха. Прыгналі нас, чатырох, у Дзісну, у паліцэйскі пастарунак, пасадзілі ў цёмны катух і там, сярод ночы, я пачуў, як хтосьці з паліцыянтаў дрыготкім голасам вымавіў: —Wojna!

Праз колькі дзён нас перавезьлі ў Глыбокае, здалі ў дэфэнзіву, але неўзабаве адпусьцілі дахаты: немец ужо стаяў пад Варшавай і палякам не было калі з намі важдацца.

Ад ранку 17 верасьня маці, як заўсёды, пайшла да кароў, але раптам вярнулася ў хату і ад парога паведаміла: — Алешчыцы гараць!

У Алешчыцах — невялічкім паселішчы на беразе Дзьвіны — знаходзілася польская памежная стражніца: яна і занялася агнём. Акрамя таго, у Алешчыцах бухалі стрэлы і я тады падумаў — няўжо немцы прыйшлі?

Блізу абеду на гасьцінцы, што лучыць Дзісну і Мёры, зьявіліся ўзброенныя людзі на маленькіх кудлатых конях (мы іх адразу назвалі “манголкамі”). Гэта ішла Чырвоная Армія, якая, як потым напісалі ў газэтах, “працягнула руку братняй дапамогі народу Заходняй Беларусі”.

Польскія жаўнеры апраналіся фацэтна: усе скрозь у ботах, на добрых конях, а тут ехала войска на “манголках”, апранутае ў нейкія чорныя ватоўкі і гэта нашых людзей надта зьдзівіла.

Шмат хто пабег сустракаць “вызваліцеляў”, жанкі прынесьлі глякі малака, але чырвонаармейцы паводзілі сябе на дзіва сувора: у размовы не ўступалі і ад малака адмаўляліся — баяліся, відаць, што яно атручанае.

Прыход Саветаў бальшыня народу сустрэла, кажучы застойнай мовай, з пачуцьцём глыбокага задавальненьня. Асабліва ўзрадваліся безьзямельныя сяляне, спадзяючыся, што іх надзеляць зямлёй.

Неўзабаве па вёсках арганізаваліся сялянскія камітэты, з-за Дзьвіны прывезьлі савецкія газэты, партрэты Сталіна і наркама Варашылава, чырвоныя сьцягі і транспаранты, і мы цэлы месяц хадзілі з тымі сьцягамі на мітынгі. Поруч з правядзеньнем мітынгаў, праводзіліся таксама масавыя арышты. Спачатку пахапалі польскіх памежнікаў і паліцыянтаў, потым розных урадоўцаў, потым асаднікаў, нарэшце, узімку сабралі да кучы лесьнікоў і выправілі ў Беразьвецкі лягер.

Простых сялян новая ўлада да пары не чапала. Больш таго, у суседняй вёсцы Дрыгучы была адчынена беларуская школа і я з радасьцю

**(Працяг на ст.7)**

уладкаваўся туды на працу.
Але адчыняліся ня толькі школы, але й аддзелы міліцыі, ваенкаматы, ды іншыя савецкія ўстановы. З-за Дзьвіны панаехала процьма розных інструктараў і ўпаўнаважаных, якія мусілі праводзіць у жыцьцё палітыку савецкага кіраўніцтва, а што гэта за палітыка — сяляне ў хуткім часе зьведалі напоўніцу.

Па-першае, на кожны двор накінулі падатак, выплаціць які многім сялянам было папросту не па сілах; па-другое, кожнаму двару давялі плян абавязковых сельгаспаставак: дзяржаве трэба было здаваць збожжа, яйкі, мяса, воўну, а таксама ўвялі культзбор, сродкі ад якога ішлі на будаўніцтва дарог, больніц, клюбаў і г. д. Вось тут сяляне і папраўдзе застагналі, але ўжо не пад абцасам польскіх паноў, а пад пільным наглядам савецкіх інструктараў і ўпаўнаважаных. Спачатку ня ведалі — куды хавацца, але неўзабаве нашыя людзі вынайшлі эфэктыўны сродак. А менавіта: пачалі частаваць таварышоў ядраным жытнім першаком. Тыя напачатку нібыта адмаўляліся, а потым пачалі браць на поўную губу, балазе, жонкі іхныя былі на Ўсходзе. Ну а ўкінуўшы за каўнер, таварышы мусілі зьніжаць, а то й наогул сьпісваць падаткі.

Дзесьці праз год пасьля "вызваленьня" па вёсках пайшлі гуляць чуткі пра арганізацыю калгасаў і шмат хто не на жарт усхваляваўся, ведаючы, што самагонкай ад калгаса не адкупішся. Але хваляваньні былі дарэмныя: калгасаў не арганізавалі, бо неўзабаве насунулася куды больш страшнае няшчасьце — вайна зь немцамі.

Раніцай 22 чэрвеня 1941 года я, па старой звычцы, уключыў радыёпрыймальнік і на хвалі радыёстанцыі "Кёнігсбэрг" пачуў брахлівы голас нямецкага дыктара. Нямецкую мову я збольшага ведаў і таму сьцепануўся ад нечаканасьці: дыктар зачытваў паведамленьне, зь якога вынікала, што "доблесныя войскі вэрмахту, зрываючы агрэсіўныя пляны бальшавікоў", распачалі вайну супроць Савецкага Саюзу. Ліхаманкава настроіў прыймач на "Гляйвіц" — нямецкую радыёстанцыю, якая вяла перадачы па-польску і пачуў тое ж самае: "Гляйвіц" перадаваў мэмарандум Гітлера з нагоды пачатку вайны з бальшавікамі. Пасьля таго я паслухаў Менск, потым Маскву — яны перадавалі вясёлую музыку — і ў мяне адлягло ад сэрца. Пабег на Дзьвіну — стаяла якраз пагода — даў нырца ў прахалодную ваду і подбегам вярнуўся дахаты. Зноўку паслухаў радыё і зноўку пачуў мэмарандум Гітлера на нямецкіх хвалях і вясёлую музыку з Масквы. Казаць пра пачутае не наважыўся нават суседзям, паведаміў толькі дзядзьку Кузьму, які тады ўжо зьехаў зь Вільні і жыў на другім канцы вёскі. Дзядзька адразу спахмурнеў, уздыхнуў і параіў сабраць усе грошы, што былі ў хаце і бегчы ў краму — хапаць усё, што там ёсьць. Я так і зрабіў — узяў у краме мыла й колькі літраў газы і потым нашая сям'я дзячыла дзядзьку за ягоную параду. Праз пару дзён пачалася мабілізацыя ў Чырвоную Армію. Бралі мужчынаў 1917—1918 гадоў нараджэньня, а ўжо на пачатку ліпеня праз нашу вёску ішлі "войскі доблеснага вэрмахту". І зноўку нашыя людзі стаялі на ўзбочыне, прыглядаючыся да чарговых няпрошаных "гасьцей".

Сялянам, памятаю, спадабаліся нямецкія коні: укормленыя біцюгі невядомай пароды. Немцы ехалі на іх і махалі нам рукамі. Ніякіх расстрэлаў і гвалту над насельніцтвам, як гэта паказваюць у "кінах", не чынілася. Праўда, паводзілі сябе "госьцейкі" даволі бесцырымонна. Прыйдуць, да прыкладу, у чый-небудзь двор, і абавязкова пазьбіваюць прыкладамі ўсе замкі і запоры. Апроч таго, забіралі ў сялянаў фураж і коней. У нас таксама каня забралі, дык бацька, не надумаўшы нічога лепшага, загадаў мне бегчы да афіцэра і паскардзіцца на афіцэравых падначаленых. Пайшоў я да таго немца, растлумачыў, як мог, сытуацыю, і афіцэр, зьдзівіўшыся, што ў затурканай беларускай вёсцы ёсьць людзі, якія могуць "шпрэхаць", выпісаў нейкую паперку. Бацька потым хадзіў зь ёю ў Дзісну і тамтэйшы ваенны камэндант даў яму кульгавую кабылу.

Скажу яшчэ, што і падаткі, якімі немцы абкладалі цывільнае насельніцтва, не йшлі ні ў якае параўнаньне з савецкімі паборамі. За ўсю вайну наша сям'я ў якасьці падатку аддала толькі цялушку ды тое-сёе з фуражу. Школы пры немцах таксама працавалі, прычым усе яны былі беларускімі. І вучылі ў іх, у асноўным, па савецкіх падручніках. Потым многіх настаўнікаў пастралялі партызаны, а тыя, хто выжыў ды ня зьехаў зь немцамі, знайшлі свой спачын на Калыме. На думку крамлёўскіх верхаводаў, дзеці на акупаванай тэрыторыі мусілі не вучыцца ў школе, а ўсе, як адзін, падацца ў "народныя помсьнікі".

Ну а першыя партызаны ў нас зьявіліся ў другой палове сорак другога. Гэта былі акружэнцы з Расонскіх лясоў, якія перабіраліся празь Дзьвіну і блукалі начамі па вёсках у пошуках харчу. Сапраўдны ж партызанскі рух разгарнуўся ў пачатку наступнага, сорак трэцяга году. Яго арганізатарамі сталіся спэцгрупы, якія прыходзілі з-за лініі фронту з мэтаю ўчыненьня дывэрсій у тыле нямецкіх войскаў. На кожную такую дывэрсію немцы адказвалі актамі тэрору супроць мірнага насельніцтва. У выніку такіх дзеяньняў нешматлікія групы "народных помсьнікаў" сталі актыўна папаўняцца людзьмі і ўвесну 1943 года на Дзісеншчыне ўжо на ўсю моц шугала полымя партызанскай вайны.

Там-сям у адраджэнцкай літаратуры даводзіцца чытаць, што, маўляў, нямецкія ўлады з разуменьнем ставіліся да беларускага патрыятычнага руху і нават у нечым яму спрыялі. У нашых мясьцінах усё было якраз наадварот: нямецкія паслугачы зь ліку польскіх афіцэраў, якія ачолілі цывільную ўладу, зьнішчалі сьвядомых беларусаў ня горай ад бальшавікоў. У Дзісьне цывільным камэндантам быў паляк Сьвінарскі, а ў намесьніках хадзіў ягоны суайчыньнік Альхімовіч — прыблуды гэтыя люта ненавідзелі беларусаў. 27 траўня 1942 года гэты самы Альхімовіч застрэліў дзядзьку Кузьму і скінуў з пяшчанага адхону. А дзесьці праз год пан Сьвінарскі зацікавіўся і маёй асобай. Адзін мой знаёмы, які жыў у Дзісьне, паведаміў пра гэта і параіў куды-небудзь прыхавацца.

Маці сабрала хатуль, паплакала на дарогу, і выправіла за весьніцы. Пайшоў я мястэчка Лужкі, да свайго сябра Валодзі Стомы, зь якім калісь разам вучыліся ў гімназіі. Да Лужкоў, аднак, не дайшоў: як кажуць, бег ад ваўка, ды на мядзьведзя ўзьбіўся. Каля вёскі Гарадзец дарогу заступілі людзі ў нямецкай форме і па-расейску загадалі: — Стоять! Руки за голову! — Абмацалі з ног да галавы, спыталі куды іду і тыцнулі ў сьпіну руляй

(Працяг на ст.8)

карабіну...

Тыдзень сядзеў пад вартай з тузінам такіх жа небаракаў і ад іх даведаўся — да каго патрапіў. Як высьветлілася, у Гарадцы кватараваў полк так званай "Рускай нацыянальнай арміі", якім камандаваў падпалкоўнік Радзівонаў. А пэўнага дня нас, вязьняў, зшыхтавалі перад камэндатурай і паведамілі, што мы мабілізуемся ў "Нацыянальную армію".

Ваяваць на баку немцаў — рэч зразумелая — ніхто не хацеў і тае ж начы некалькі "мабілізаваных" паспрабавалі зьбегчы, але іх злавілі і, па чутках, расстралялі. Пасьля таго мы, казаў той, прыціснулі вушы і сталі чакаць — што будзе далей. Цэлы месяц чысьцілі на палкавой кухні бульбу, а неўзабаве нас пастроілі ў калёну і загадалі шпаркай хадой рушыць наперад. Пайшлі ў напрамку Докшыцаў, перайшлі чыгунку і ў адным зь лясоў пачулі: полк распачынае змагацца зь нямецка-фашыстоўскімі захопнікамі і ад гэтай пары мянуецца 1-й Антыфашыстоўскай партызанскай брыгадай.

Потым ужо даведаліся, што падпалкоўнік Радзівонаў, які дагэтуль служыў немцам, цэлы месяц вёў перамовы з партызанамі Бягомальскай зоны аб пераходзе на іхны бок. Так, у жніўні 1943 года, я стаў партызанам.

Пра "ўсенародную партызанскую барацьбу" шмат казаць ня буду — пра яе і так ужо сказана даволі. Скажу толькі, што жыцьцё партызанскае не было салодкім. Мяне двойчы паранілі. Другім разам — цяжка. Зьбіраўся ўжо вярнуць Богу душу, але, на шчасьце, апынуўся непадалёку ад партызанскага аэрадрому і мяне самалётам перакінулі на савецкую тэрыторыю. Доўга ляжаў у шпіталі, пасьля папраўкі апынуўся ў вучэбным танкавым палку і 10 студзеня 1944 года, у складзе 37-й мэхбрыгады, патрапіў на фронт. Прайшоў зь дзеючай арміяй усю Беларусь — ад Парычаў да Беластоку. Браў удзел у страшных баях на Магнушэўскім пляцдарме, у баях пад Кюстрынам — дзівам застаўся ў жывых — і 9 Траўня сустрэў у Берліне, у цэнтральным сталічным парку Цыргартэн.

Дахаты вярнуўся ў лістападзе сорак пятага. Усё навокал ляжала ў руінах, усё было спляжана і панішчана. Уладкаваўся на працу ў школу, і ўсё астатняе жыцьцё — аж да пэнсіі — працаваў настаўнікам.

Падводзячы рысу, хачу, з вышыні свайго жыцьцёвага досьведу, сказаць наступнае: беларусы ва ўсе часы былі народам прыніжаным і беспрытульным. Любая ўлада, якая панавала на Беларусі, зьнішчала — духова альбо фізычна — беларускую інтэлігенцыю, мову і культуру, і таму ня трэба дзівіцца, што прыканцы другога тысячагодзьдзя ад нараджэньня Хрыстова мы, беларусы, ператварыліся ў натоўп, які ня ведае — што рабіць, куды бегчы і, разявіўшы рот, слухае байкі розных прайдзісьветаў.

# ЖЫВІ Ў ВЯКАХ, НАШ РОДНЫ СЬЦЯГ!

Бацька мой у 50-х гадох, як, дарэчы, і дзесяткі іншых беларусаў, паехаў разворваць цалінную зямлю і неўзабаве асеў у башкірскім месьце Сьцерлітамак. Там я і нарадзіўся. Але, на шчасьце, у 1973 годзе бацьку пацягнула на радзіму, і ён прывез сям'ю на Полаччыну. Вось так пачалася для мяне Беларусь.



Я, тады яшчэ 13-гадовы падлетак, кепска цяміў што да чаго, але мяне ўразіў лад жыцьця, дакладней, сьветапогляд гэтага народу. Было адчуваньне нейкай самавітасьці, гаспадарлівасьці. Напэўна, тое ж самае адчувае чалавек, які, пражыўшы ўсё жыцьцё ў шумным горадзе; у чэргах, сварках, бэнзынавым чадзе, раптам трапіць у ціхую вёсачку на ўскрайку цывілізацыі, дзе кожны вясковец, якога ты ніколі ў жыцьці ня бачыў, прыязна з табой вітаецца, дзе ад цішыні зьвініць у вушах, дзе нават сабакі брэшуць толькі па абавязку.

Для мяне гэта была невядомая краіна. Вельмі ўразілі полацкія бажніцы: Сафійскі сабор (ён у той час стаяў у будаўнічых рыштаваньнях), падземныя лёхі, валуны з надпісамі і крыжамі па берагох Дзьвіны. Тут усё дыхала старажытным, таямнічым.

І потым, у сярэдзіне 80-х, як кропка, як апошні крок – Курапаты, узьняты бел-чырвона-белы сьцяг. Далей было проста, далей была справа сумленьня.

Вось ужо паўгода велізарны, памерам 2 на 6 мэтраў бел-чырвона-белы сьцяг з выявай шасьціканцовага крыжа ўпрыгожвае прыстанцыйны будынак станцыі Баравуха – месца нашай працы. І намалявалі мы яго з сябрамі з адзінай мэтай – каб пасажыры цягнікоў бачылі: гэта нашая зямля, мы тут гаспадары, а ня купка недарэкаў, што ў 95-м падзерла сьвятыню на шматкі.

**Анатоль Каханчык**



Інфармацыйнае выданьне
Грамадзкага Аб'яднаньняКультурніцка-Асьветніцкіх Ініцыятываў "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ".
Распаўсюджваецца на правох рукапісу.
Адрэса для допісаў:211440.Навалолацак-8,п\с № 26

Рэдакцыйная Рада: Вінцэсь Мудроў, Васіль Храмцоў, Уладзімер Кунцэвіч.

За дакладнасьць фактаў і лічбаў нясуць адказнасьць аўтары.
Думкі аўтараў могуць не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыйнай Рады